# КРЫНІЦА

№ 6 жнівень, 2009 www.bchd.info


# БЕЛАРУСЬ – У ЭЎРОПУ? З БОГАМ!

**Беларусь рыхтуецца да правядзеньня Эўрапейскага Форума. Ужо цяпер, улетку, пачынаецца вылучэньне дэлегатаў на найбуйнейшы сход прыхільнікаў эўрапейскага выбару для Беларусі, які мае прайсьці ў лістападзе гэтага году ў Менску.**

Ва ўмовах сусьветнага крызісу й глябальных геапалітычных зьменаў беларускія ўлады нарэшце распачалі шырокае супрацоўніцтва з Эўразьвязам, далучыліся да праграмы «Усходняе партнэрства» – і гэта яшчэ раз паставіла перад мільёнамі беларусаў пытаньне: куды ідзем?

Зь ініцыятывы кандыдата ў прэзыдэнты Аляксандра Мілінкевіча ў Менску прапанавана правесьці вялікі кангрэс з удзелам вядучых эўрапейскіх палітыкаў, лідэраў беларускіх дэмакратычных сілаў, грамадзкіх дзеячоў – каб акрэсьліць: чаму Беларусі патрэбна эўрапейская інтэграцыя.

Беларускія хрысьціянскія дэмакраты вызначыліся са сваёй эўрапейскай палітыкай у Праграме, прынятай 28 лютага на Ўстаноўчым Зьезьдзе. Для нас рух у Эўразьвяз абумоўлены стаўленьнем аб'яднанай Эўропы да хрысьціянскіх каштоўнасьцяў. Мы бачым ЭЗ перадусім як цывілізацыю, сфар-






маваную на падмурках хрысьціянства і патрыятызму. Мы таксама хочам будаваць сваё грамадзтва на грунце дэмакратыі й мясцовага самакіраваньня, адказнасьці і свабоды, дабрыні і справядлівасьці. Разам з тым, нас як вернікаў насьцярожваюць пэўныя веяньні, пашыраныя на тэрыторыі сучаснай Эўропы: легалізацыя эўтаназіі ды аднаполых шлюбаў, нецярпімасьць да абароны жыцьця ў справе абортаў, рост напружанасьці ў сувязі зь нелегальнай іміграцыяй, непавага да царквы як да ключавога грамадзкага інстытуту. Як хрысьціянскія дэмакраты, мы верым, што Эўразьвяз адродзіцца толькі праз хрысьціянскае абуджэньне, празь вяртаньне да сваіх гістарычных каранёў – веры ў Бога і любові да бліжняга.



Дарэчы, менавіта хрысьціянскія дэмакраты перамаглі на апошніх выбарах у Эўрапарлямант. І дарэчы, сярод новых сябраў ды суседзяў ЭЗ ва Усходняй ды Цэнтральнай Эўропе – Польшчы, Румыніі, Баўгарыі, Славаччыне, Літве, Латвіі, Украіне, Малдове, Грузіі – набірае росту ўплыў царквы і хрысьціянскі рух у палітыцы.

Таму: мы ідзем у Эўропу, каб адраджаць яе.

І трэба выбіраць: альбо нас эканамічна, палітычна, культурова паглыне Расея – альбо мы забясьпечым сваю незалежнасьць з дапамогай Эўразьвязу.

На апошніх нацыянальных радах БХД колькасьць прыхільнікаў уступленьня Беларусі ў Эўразьвяз вагалася ад 53% да 65%. У «Двубоі», прысьвечаным ЭЗ, таксама перамог эўрааптыміст Кастусь Жукоўскі.

Можа быць, менавіта таму мы чакаем удзелу ў Эўрапейскім Форуме вернікаў і сьвятароў усіх хрысьціянскіх канфэсіяў.

У падрыхтоўцы Форуму, апроч БХД, прымаюць удзел «Рух за свабоду»,«Малады Фронт», «Маладая Беларусь», «Моладзевы Хрысьціянска-Сацыяльны Саюз», «Правы Альянс», Партыя Свабоды і Прагрэсу, іншыя аб’яднаньні. Па ўсёй Беларусі заплянавана больш як 60 сходаў дзеля вылучэньня дэлегатаў на Форум. У 27 зь іх кардынатарамі абраныя хрысьціянскія дэмакраты: такім чынам, наша Партыя пацьвярджае свой статус адной з галоўных палітычных сілаў у краіне. Агулам, як чакаецца, у Форуме возьме ўдзел 1100-1200 удзельнікаў.

Запрашаем далучацца да падрыхтоўкі й арганізацыі Эўрапейскага Форуму. Для жадаючых стаць дэлегатамі – калі ласка, зьвяртайцеся:

**+375 29 516 08 61 Павал**
**+375 29 763 59 54 Віталь**
Беларусь – у Эўропу? З Богам!

*Рэдактар*





# АДБЫЎСЯ КРУГЛЫ СТОЛ НА ТЭМУ «ЗЛАЧЫНСТВЫ КАМУНІЗМУ НА БЕЛАРУСІ. МІНУЛАЕ І СУЧАСНАЕ»

**21 ліпеня адбыўся круглы стол на тэму «Злачынствы камунізму на Беларусі. Мінулае і сучаснае». Таксама была створана Каардынацыйная рада і праведзена прэзентацыя сайту represii-by.info.**

Падчас круглага стала была створана Каардынацыйная рада ініцыятыў, што займаюцца даследваннем злачынстваў камунізму.

Асноўнымі мэтамі Рады есць: каардынацыя дзейнасці і абмен інфармацыяй паміж ініцыятывамі, што займаюцца даследваннем злачынстваў камунізму і ўшанаваннем памяці рэпрэсаваных. Арганізатары сустрэчы падкрэсліваюць, што рада «ня ёсць стварэннем нейкай новай ініцыятывы ці аб’яднання», але ёсць «пляцоўкай для каардынацыі актыўнасцяў і паляпшэння супрацоўніцтва паміж існуючымі ініцыятывамі». Яна адкрытая да актывістаў розных рухаў, ініцыятыў, партый, асобных гісторыкаў і спецыялістаў, што займаюцца праблемай камуністычных рэпрэсіяў ды простых грамадзянаў, неабыякавах да гэтай праблемы.

Згоду на ўдзел у Радзе выказалі: ініцыятыва «Пакаяньне» Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі; секцыя «Мемарыял» Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі; прадстаўніцтва міжнароднага аб’яднаньня «Мемарыял» на Беларусі; «Малады Фронт», а таксама шэраг арганізацыяў беларусаў замежжа.

Акрамя гэтага, на сустрэчы быў прэзентаваны сайт represii-by.info, прысвечаны злачынствам камуністычнага рэжыму на Беларусі. На дадзены момант на сайце сабраныя навіны, артыкулы, фотаздымкі, а таксама дакументацыйныя, біяграфічныя і аналітычныя матэрыялы на гэтую тэму.

Ініцыятарам круглага стала выступіў кандыдат у прэзідэнты РБ ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Віталь Рымашэўскі.






# СУДОВАЕ РАЗБІРАЛЬНІЦТВА БХД СУПРАЦЬ МІНЮСТУ Ў ВЯРХОЎНЫМ СУДЗЕ

**На 20 ліпеня было прызначана слуханне ў Вярхоўным Судзе па скарзе Аргкамітэту па стварэнні партыі БХД.**

10 ліпеня падчас візіту ў Вярхоўны Суд, прадстаўніку БХД Дзянісу Садоўскаму было адмоўлена ў азнаямленні з дакумантамі, якія складаюць сутнасць прэтэнзіяў Мінюсту. Яму былі прадстаўлены толькі копіі дакуматаў, якія здаваліся самімі заснавальнікамі БХД для рэгістрацыі. Дакуманты з Мінюста прадстаўлены не былі.

20 ліпеня ў Вярхоўным Судзе пачаліся слуханні. Цягам першага дня паседжання суд паспеў выслухаць выступы бакоў, а таксама частку сведкаў, выкліканых БХД.

Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю ў судзе прадстаўлялі сустаршыня партыі Аляксей Шэін і адказны сакратар Дзяніс Садоўскі. З боку Міністэрства юстыцыі выступаў загадчык сектара Мінюста Яўгеній Какуша.

Падчас сваіх выступаў Аляксей Шэін і Дзяніс Садоўскі адзначалі, што адмова ў рэгістрацыі з'яўляецца палітычна матываванай. А большасць фактаў, што сталіся повадам да нерэгістрацыі партыі, былі выкліканы ціскам на заснавальнікаў партыі з боку КДБ, МУС і ідэалагічных аддзелаў выканкамаў.

Для падцверджання сваіх слоў прадстаўнікі БХД выклікалі шэраг сведкаў з розных рэгіёнаў Беларусі. Паводле словаў сведкаў, на заснавальнікаў партыі ажыццяўляўся ціск, пагрозы, некаторыя былі звольнены з працы. За першы дзень паседжання Вярхоўнага Суда паспелі выступіць толькі 6 з 12 заяўленых БХД сведкаў.

На слуханні прысутнічалі амбасадар Каралеўства Швэцыя спадар Стэфан Эрыксан, а таксама прадстаўнікі амбасадаў ЗША, Польшчы і Чэхіі.

Спадар Шэін агучыў пазіцыю БХД:

«*Мы гатовыя адстойваць тыя каштоўнасці, за якія выступаем. Мы паказваем чальцам-заснавальнікам нашай партыі, што мы гатовы адстойваць пазіцыю больш чым 1000 чалавек, якія выказаліся за неабходнасць стварэння Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі». Мы паказваем нашым партнёрскім партыям за межамі краіны, што для рэалізацыі нашых мэтаў мы гатовыя ісці шляхам, які прадугледжанны законам. Афіцыйнай уладзе мы даем магчымасць прадэманстраваць сваю добрую волю і прыняць такое рашэнне, якое б адпавядала закону.*


Аляксей Шэін

Прадстаўнік Мінюста, Яўгеній Какуша, агучыў пазіцыю свайго ведамства: «*Рашэнне Міністэрствам юстыцыі прынята. Іншае рашэнне прынята быць не можа*».

Выступаючы падчас спрэчак, Адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі падцвердзіў, што дзейнасць партыі працягнецца ў незалежнасці ад рашэння мінюста, а таксама нагадаў, што ўсе адкажуць за тыя чорныя справы, якія яны рабілі.

У прыватнасці, скарыстаўшыся правам рэплікі, Дзяніс Садоўскі заявіў, што «*БХД дзейнічала, дзейнічае і будзе дзейнічаць у незалежнасці ад вынікаў судовага рашэння*».

Разам з тым звяртаючыся да суддзі спадар Садоўскі нагадаў, што «*Божы Суд вышэйшы за суд чалавечы, і кожны чалавек дасць адказ за тыя справы, якія ён рабіў*».

«*Таму мне шчыра шкада спадара Какушу*», – тут жа дадаў палітык.

22 ліпеня Вярхоўны суд адмовіў БХД.

Каментуючы гэтае рашэнне, сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі заявіў: «*Рашэнне Вярхоўнага суда абуральнае і незаконнае. Мы будзем праводзіць паўторны з'езд, падаваць дакуманты на рэгістрацыю партыі зноў і ўрэшце рэшт пераможам*».


Дзяніс Садоўскі





# БУДСЛАЎ: 40 ХРЫСЦІЯНСКІХ ДЭМАКРАТАЎ У 9 ПІЛІГРЫМКАХ; ВЫНІК – 95 НОВЫХ СЯБРАЎ І ПРЫХІЛЬНІКАЎ

**Будслаўскі фэст – найвялікшая ў Беларусі хрысціянская сустрэча. Дзясяткі тысяч людзей, якія вераць у Бога і любяць сваю Радзіму, збіраюцца разам дзеля супольнага пакланення і малітвы. Фэст арганізоўваецца Каталіцкім Касцёлам, але штогод у ім удзельнічае усё больш праваслаўных і пратэстантаў. Сёлета санктуарыю ў Будславе прыйшлі каля 2,5 тысячаў пешых паломнікаў з Беларусі і замежжа. Усяго ў Будславе ў гэтыя дні сабралося каля 50 тысячаў вернікаў. Сапраўднае нацыянальнае свята! Сваімі ўражаннямі ад сёлетняй пілігрымкі з прэсавай службай БХД падзяліўся Павал Севярынец.**



– Будслаў – гэта адкрыццё: якой будзе Беларусь заўтра. Дзесяткі тысячаў прыстойных, прыгожых, ветлівых людзей, якія моляцца да Бога, гавораць на роднай мове, спяваюць – разам, дружна! – адно з наймацнейшых відовішчаў сярод нашае звыклае шэрасці, абыякавасці й заняпаду. Тут Дух Святы, – сказаў спадар Севярынец.

– «Схадзіць у Будслаў!» Сказаць, што гэта пажаданне або парада для хрысціянскага дэмакрата, недастаткова. Калі Вы вернік, актывіст, патрыёт – гэта абавязак. Схадзіць у пілігрымку. Да святыні. Да Беларусі. Да Бога. Няважна – каталікі Вы, праваслаўныя ці пратэстанты. Я праваслаўны хрысціянін – дадаў Павал, – але лічу, што такія падзеі павінны яднаць усіх хрысціян без адрозненняў па канфесіях.

Прадстаўнікі БХД ішлі ў 9 пілігрымках (Менская, Віцебская, Баранавіцкая, Маладэчанская, Полацкая, Браслаўская, Пастаўская, Мёрская, Глыбоцкая); агулам у Будславе сёлета пабывала больш за 40 сябраў БХД. Вынік – 95 новых прыхільнікаў і сябраў у партыйнай базе звестак.

Трэба адзначыць, што ў Будславе былі затрыманыя сустаршыня партыі БХД Павал Севярынец і іншыя актывісты партыі. Падставай для затрымання стала тое, што актывісты мелі пры сабе некалькі дзесяткаў асобнікаў бюлетэня «Крыніца». У дачыненні да затрыманых пратаколы не складаліся.





# КЛУБНІЧКА АД БХД

**Бабруйскія актывісты Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі правялі дабрачынную акцыю. Сябра БХД Уладзімер Аўсяннікаў сабраў клубніцы са свайго прыватнага зямельнага ўчастку і разам з іншымі сябрамі партыі развёз іх па навакольных сацыяльных установах.**

Як паведаміла прэсавай службе Беларускай Хрысцінскай Дэмакратыі Таісія Кабанчук, ягады былі завезены ў Клічаўскі дзіцячы дом і Бацэвіцкую бальніцу сястрынскага дагляду – мясцовы дом састарэлых. Пачаставаўшы ягадамі, актывісты мелі магчымасць пакантактаваць са старымі і дзецьмі.

Гэта не першая дабрачынная акцыя хрысціянскіх дэмакратаў на Бабруйшчыне. Так, месяц таму тыя ж актывісты арганізавалі збор кніжак для Бабруйскай раённай дзяцячай бібліятэкі.

У бліжэйшых планах бабруйскай суполкі БХД падарыць дзіцячыя кнігі бібліятэцы ў вёсцы Сяргеевічы.

# ВІТАЛЬ РЫМАШЭЎСКІ: ПРАПАНОВЫ ЕЗ СПРАЦУЮЦЬ ТОЛЬКІ ТАДЫ, КАЛІ Ў БЕЛАРУСКАЙ УЛАДЗЕ ЦВЯРОЗЫ РОЗУМ ПЕРАВАЖЫЦЬ НАД ЭМОЦЫЯМІ І ФОБІЯМІ



*Беніта Ферэра-Вальднер*

**Сустаршыня «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» Віталь Рымашэўскі ўдзельнічаў 22 чэрвеня ў сустрэчы прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці з з камісарам Еўразвязу па знешніх сувязях і еўрапейскай палітыцы суседства Бенітай Ферэра-Вальднер.**

Ферэра-Вальднер станоўча ацаніла свае сустрэчы з прадстаўнікамі беларускіх уладаў, але зазначыла, што ЕЗ будзе настойваць на выкананні пяці рэкамендацыях ЕЗ, неабходных для развіцця адносінаў: рэформа выбарчага заканадаўства; забеспячэнне свабоды аб'яднанняў; стварэнне ўмоў для дзейнасці НДА; свабода прэсы; зняцце абмежаванняў для свабоды асобы.

– БХД вітае такую пазіцыю Еўразвязу, – зазначыў у каментары прэсавай службе партыі Віталь Рымашэўскі. – Беларусі сапраўды патрэбнае развіццё эканамічных, палітычных і культурных стасункаў з ЕЗ, але развіццё такіх адносінаў павінна ісці ўзаемазвязана між сабой.

Вельмі важна, што спадарыня Ферэра-Вальднер зрабіла акцэнт на тым, што без прасоўвання наперад па гэтых пяці рэкамендацыях, без паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, будзе немагчыма супрацоўнічаць эканамічна. Гэта выглядае цалкам лагічна, бо палепшыць эканоміку можна толькі тады, калі будзе мяняцца палітычная сістэма.

# ПРАДСТАЎНІКІ БХД УЗЯЛІ ЎДЗЕЛ У МАЛІТОЎНЫМ СНЯДАНКУ, ЗЛАДЖАНЫМ ВАЛДАСАМ АДАМКУСАМ



*Віталь Рымашэўскі*

**Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус зладзіў гэта мерапрыемства ў Вільні для палітыкаў, грамадскіх дзеячоў Літвы і замежных краін. На сустрэчы прысутнічалі прэм'ер-міністр Андрус Кубіляс і новаабраны прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ. Ад БХД на Малітоўны Сняданак былі запрошаныя сустаршыні партыі Віталь Рымашэўскі і Георгій Дзмітрук.**

Віталю Рымашэўскаму было прадастаўлена слова для выступу, у якім сустаршыня БХД зазначыў, што «агульныя хрысціянска-дэмакратычныя каштоўнасці аб'ядноўваюць людзей незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці».

# ДЭЛЕГАЦЫЯ КАНГРЭСМЭНАЎ ЗША СУСТРЭЛАСЯ З ПРАДСТАЎНІКАМІ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

**30 чэрвеня адбылася сутрэча дэлегацыі кангрэсмэнаў ЗША з прадстаўнікамі беларускай грамадзянскай супольнасці. У склад дэлегацыі ўваходзілі сенатар Бенджамін Кардэн (старшыня Хельсінкскай камісіі Кангрэса), кангрэсмен Крыс Сміт (галоўны прадстаўнік меншасці Рэспубліканскай партыі ў Хельсінкскай камісіі), і сенатар Дзік Дэрбін (намочнік лідэра большасці Дэмакратычнай партыі ў Сенаце). Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю на сустрэчы прадстаўляў кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі.**

Паводле ягоных словаў, чальцы амерыканскай дэлегацыі выказалі сур'ёзную зацікаўленнасць сітуацыяй у Беларусі і яшчэ раз заявілі цвёрдасць пазіцыі Злучаных Штатаў адносна неабходнасці зменаў у беларускім грамадска-палітычным жыцці.

Пытанні аб свабодзе сумлення, правах чалавека і канфлікт вакол будынка царквы «Новае жыццё» выклікалі асаблівую зацікаўленнасць кангрэсмэнаў ЗША. Прадстаўнік БХД таксама звярнуў увагу кангрэсмэнаў на цяжкасці з рэгістрацыяй новых грамадска-палітычных аб'яднанняў. Асаблівы акцэнт быў зроблены на адмову ў рэгістрацыі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Дадзеная сітуацыя пагаршаецца рэпрэсіямі, якія з новай сілай пачаліся супраць лідэраў і актывістаў партыі. Таксама Віталь Рымашэўскі ўзняў пытанні аб спробах КДБ увесці пад свой кантроль царкоўныя супольнасці, аб праблематыцы беларуска-расейскіх стасункаў (эканамічны і вайскова-палітычны аспекты), аб перспектывах двубаковых стасункаў паміж Беларуссю і ЗША.



*Віталь Рымашэўскі*





***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*Мы працягваем публікаваць артыкулы з праекту «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ». У кожным нумары газэты мы будзем друкаваць матар'ялы пра найвялікшых беларусаў і беларусак. Мэта: выбраць Імя Беларусі – асобу, што выяўляе нашу Радзіму найпаўней. Пачалі мы з Эўфрасіньні Полацкай, беларускай сьвятой. Атрымальнікі нашай паштовай рассылкі пазначылі, пра каго б яны хацелі прачытаць у«Крыніцы»: найбольш галасоў набралі Францішак Скарына (22), Кастусь Каліноўскі (18), Янка Купала (18), Васіль Быкаў (17), Вітаўт (17), Міхал Клеафас Агінскі (16), Максім Багдановіч (15), Уладзімір Караткевіч (14), Леў Сапега (14), Мікалай Радзівіл Чорны (12). Запрашаем і Вас удзельнічаць у праекце – дасылаць свае тэксты і меркаваньні. Сеньня мы прадстаўляем **Вітаўта Вялікага**.*

***Абярэм Імя Беларусі разам!***



# ВІТАЎТ ВЯЛІКІ



**Імя гэтага Вялікага князя ўпісанае ў гісторыю Беларусі вялікімі літарамі: ВІТАЎТ.**

Вітаўт вялікі, як Княства Літоўскае XV ст. За часы Вітаўта ВКЛ стала цэнтралізаванай дзяржавай, самай вялікай краінай тагачаснае Эўропы й адным з самых уплывовых гаспадарстваў сьвету.

Вітаўт вялікі, бо яму як валадару падначальваліся і Арда, і Масква, і Ноўгарад, і Цьвер; намесьнікі Вітаўта кіравалі Чэхіяй і Малдовай. Імпэрыя Беларусь задзіночвала ўсю Ўсходнюю Эўропу пад уладай Вільні.

Вітаўт вялікі, бо сам, пабываўшы і праваслаўным, і каталіком, па-хрысьціянску талерантна ставіўся і да каталікоў, і да праваслаўных, і да мусульманаў, і да габрэяў, яднаючы народ ня сілаю, а ідэяй моцнае дзяржаўнасьці.

Вітаўт вялікі, бо толькі вялікім належыць такі драматычны й бліскучы лёс, поўны выпраба-





ваньняў, зьдзяйсьненьняў і цудаў – як у Якава, Майсея або Давіда.

Для беларусаў Вітаўт такі ж вялікі, як і Пётр I для расейцаў, імпэратар Карл для французаў ці Аляксандр Македонскі для антычнага сьвету.

Эпоха Вітаўта высіцца ў беларускай гісторыі аграмаднай гарой, на якой паўсталі замкі, палацы й храмы Залатога веку. Гэта Вітаўт адваяваў для Беларусі геапалітычны абшар плошчаю больш мільёна квадратных кілямэтраў і заклаў капітальны падмурак для ўтварэньня й разгортваньня нацыі. Гэта Вітаўт выявіў маштаб беларускай магутнасьці й адкрыў велічыню нашага патэнцыялу.

Вітаўт Вялікі – увасобленыя воля й сіла, стоеныя ў беларусах. Воля, якая змагалася й перамагала, мяняла сьвет і вырашала гістарычныя лёсы. Сіла, якая часам магла быць і зьменлівай, і жорсткай – але заўжды зыходзіла зь інтарэсаў Радзімы.

Напэўна, гэта маюць на ўвазе тыя бацькі, што сёньня называюць сваіх Віталікаў Вітаўтамі.

«Вітаўт Вялікі» – супэрфільм галівудзкага кшталту, які зробіцца адным з хітоў нацыянальнага эпасу.

Уяўляеце, зь цемры Сярэднявечча паўстаюць руіны замкаў, і гучыць глыбокі голас за кадрам: « Малады Вітаўт, пляменьнік Вялікага князя Альгерда, уступае ў змаганьне за Сэрца Эўропы пасьля таго, як законны нашчадак Ягайла забівае ягонага бацьку. Схоплены й пасаджаны ў Крэўскую вежу Ягайлам, Вітаўт бяжыць адтуль, пераапрануты ў адзежу служанкі. Супрацьстаяньне, у якім барацьба за ўладу ідзе побач з помстай, разгараецца зноў. Валодаць Сэрцам Эўропы будзе мацнейшы – бо прыняць выклік эры Грунвальда, Косава й Кулікова поля здолее толькі Вялікі князь!..»

Вітаўт – гэта й жахлівая параза ад татараў на Ворскле 12 жніўня 1399 г., пасьля якой краіна вісела на валаску, і грандыёзная перамога над Тэўтонскім Ордэнам у Прускай вайне 1410 г. і Гарадзельская вунія 1413 г., замацаваньне хаўрусу з Польшчай, і ўпакорваньне Арды, якое на стагодзьдзе пазбавіла Беларусь усходняе пагрозы.

На карціне Матэйкі, конна, пасярод грунвальдзкае сечы, з растрапаным валосьсем і занесеным мячом, з успышкай грознае жарсьці ў абліччы – гэта й ёсьць сапраўдны вобраз Вітаўта Вялікага. Вобраз-выбух. Вобраз-пагоня. Вобраз-эпоха.

Перад сьмерцю, сабраўшы ў кулак у Вільні каралёў і князёў Эўропы, Вітаўт чакаў кароны ад Папы Рымскага. Не дачакаўся.

Бо Вялікаму Княству Госпад Бог прадвызначыў лёс не каралеўскае, а духовае ўлады. Больш велічнай, чым улада Вітаўта Вялікага.

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*





# КОНКУРС «ТУЗІН ДУМАК ПРА БЕЛАРУСЬ»

**Малады Фронт разам з БХД абвяшчае мастацкі конкурс «Тузін думак пра Беларусь», прысьвечаны дванаццатаму дню народзінаў маладзёвага хрысьціянска-дэмакратычнага руху.**

УМОВЫ конкурса вельмі ПРОСТЫЯ:

- дасылайце нам, калі ласка, адзін ці некалькі мастацкіх твораў, прысьвечаных Беларусі ці Маладому Фронту. Гэта можа быць як проза, так і паэзія, як малюнкі, так і аўтарскія фотаздымкі. Тэму вы абіраеце на свой густ,у якасьці прыклада прапаноўваем «Тузін думак пра Беларусь», «Беларусь – гэта сьвятое!» і інш. Кожны з вас мае свой цудоўны талент, таму мы ўпэўнены, што вы зможаце раскрыць і паказаць сябе у гэтым конкурсе.
- працы прымаюцца ў электронным і папяровым варыянце да 15 жніўня. Малюнкі могуць быць адсканіраваны. Калі ўзьнікне патрэба, аўтар мусіць прадставіць малюнак у арыгінале.






НАШЫЯ ПАШТОВЫЯ СКРЫНІ:
konkurs@mfront.net
220050 г. Менск-50, а/с 179

- паэзія і проза мусяць быць абавязкова на беларускай мове ў любым правапісаньні (тарашкевіца, наркамаўка, лацінка)
- усе працы разьмяшчаюцца на адмысловай старонцы сайта mfront.net, а таксама у суполках інтэрнэт-сетак «Жывы Часопіс» і «Укантакце», дзе будзе адбывацца галасаваньне
- цэніцца неардынарнасьць і арыгінальнасьць

20 жніўня журы з 12 вядомых беларускіх літаратараў, журналістаў, фатографаў і мастакоў аб'явіць 12 пераможцаў!

Напрыканцы жніўня пройдзе ўрачыстае ЎЗНАГАРОДЖВАНЬНЕ пераможцаў каштоўнымі прызамі!

На працягу конкурса на сайце будзе праходзіць галасаваньне.
ПРЫМАЙЦЕ Ў ІМ АКТЫЎНЫ ЎДЗЕЛ!!



І, безумоўна, некалькі СЮРПРЫЗАЎ!:

- памятныя сувэніры атрымаюць УСЕ удзельнікі конкурса
- тыя таленавітыя ўдзельнікі, якія здолеюць поўнасьцю раскрыць свае думкі пра Беларусь у 12 сказах (радках), ці нейкім іншым чынам адлюстраваць сымбаль «12» у сваіх творах, атрымаюць адмысловыя прызы!

Дадатковая інфармацыя:
***info@mfront.net***
ICQ: **564022681**

З пытаньнямі й прапановамі можаце зьвяртацца таксама да адмінаў інтэрнэт-суполак:
***http://vkontakte.ru/club10327093***
***http://community.livejournal.com/by_mf***

# Алег Нікулін: КРЫЗІС, ЯКІ НАРАДЖАЕ АНТЫХРЫСТА



«Усё антыхрысьціянскае, што зараз актыўна пачало заваладваць грамадствам, распраўсюджваецца пад пільным кантролем дзяржавы, якая ня можа цярпець разумных людзей, натхнёных Ісусам Хрыстом і першымі хрысьціянамі.

Гэтак было заўсёды – адразу вынішчаўся дух, а потым замест сапраўднага хрысьціянства з'яўляліся секты, прыдуманыя спецыяльнымі службамі. Для таго, каб заблытаць вернікаў і перайначыць рэлігію, яны прымушалі святароў працаваць на сябе, куплялі іх душы ці ўпускалі ў цэрквы сваіх агітатараў, калі не маглі купіць непадкупных. Гэты падмен адбываўся разам з падманам, бо не меў супрацьву з боку народа, які даўно зразумеў, хто ім кіруе, але не можа нічога зрабіць, бо залежны ад грошай ды іншых спакусаў д'ябла.

Лепшыя людзі – святыя альбо прарокі – аб'яўляюцца ўладамі звычайнымі няўдачнікамі, бо, маўляў, беспрацоўныя, не ўмеюць зарабляць грошы. А махляры, наадварот, папулярныя і патрэбныя, бо прыносяць дзяржаве тое, што «зарабілі», дзеляцца з ёй і шукаюць новых ахвяр.

Хрысьціянскі крызіс – у душах, здабытых д'яблам за дзяржаўныя грошы.

Наша Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя, магчыма, зробіць свій першы крок да рэформаў, бо ў ёй шмат маладых і пакуль не сапсаваных уладамі добрых людзей. Але ж і ім даводзіцца хавацца на канспіратыўных кватэрах, церпячы ціск і правакацыі з боку рэжыму.

Таму, каб зберагчы сябе ад спакусаў і пачаць агульную барацьбу за справу Хрыста ў Беларусі, трэба аб'яднаць хрысьціянаў – каталікоў, праваслаўных, усіх пратэстантаў – і разам дабівацца тых мэтаў, якія ставіць перад намі Хрыстос. Потым – ісьці ў народ, як гэта рабілі першыя місіянеры. І, нікому не падпарадкоўваючыся, змагацца…

З крыжам, але без зброі ў руках.»

*Алег Нікулін, Клецкі*

*Тэксты ў рубрыцы Пошта «Крыніцы» друкуюцца на правах дыскусіі.*

# Сяргей Патаранскі: ПАТРЭБНЫ ЗАКОН АБ ЗАБАРОНЕ АБОРТАЎ



«Вялікае ўражаньне пакінуў артыкул «Узаконенае забойства» К. Шыталя ў чэрвеньскім нумары «Крыніцы», прысьвечаны праблеме абортаў.

Пазіцыя любога па-хрысьціянску мысьлячага чалавека адносна дадзенага пытаньня відавочная… Толькі ж гэта проста прамовіць на ўзроўні Боскага пастулату. На практыцы ж, прызнаемся шчыра, ў паўсядзённым жыцьці шмат да якіх пытаньняў варта мець прынцыповы падыход, інакш наша вера ня будзе мець сілы, калі лянота і абыякавасьць паблажліва апраўдвае шмат якія злачынствы, у тым ліку і такое, як аборт.

Аборты трэба забараніць!

Цяпер зьвернемся да пытаньня: як? Безумоўна, у дадзеным выпадку мусіць паўстаць рэспубліканскі закон.

Складаючы заканадаўчую базу гэтага дакумента, абавязкова неабходна разьмежаваць адказнасьць самой абартуемай жанчыны за намер ці зьдзейсьнены акт і медыкаў (хаця такім словам забойцаў у мяне асабіста называць не паварочваецца язык).

Распрацоўка і прыняцьце падобнага закона не супярэчыць правам і свабодам чалавека ў дэмакратычным грамадстве, а найперш абараняе правы нацыі на паўнавартаснае існаваньне і развой, неад'емнай часткай якой зьяўляецца кожны прадстаўнік грамадства, у тым ліку і дзіця, якое мусіць знаходзіцца пад абаронай дзяржавы ўжо ўва ўлоньні маці.

Асабліва важны гэты крок менавіта цяпер, калі найперш эканамічныя і сацыяльныя ўмовы не спрыяюць натуральнаму прыросту насельніцтва, падтрымка і развіццё інстытутаў сям'і і мацярынства маюць вялікія складанасьці, а працоўная эміграцыя з краіны (асабліва моладзі) за апошнія гады можа мець катастрафічныя наступствы ў бліжэйшыя дзесяцігодзьдзі, як для самой беларускай дзяржавы, так і для ўсёй беларускай нацыі.

На базе БХД ужо ў бліжэйшы час неабходна стварыць працоўную групу з юрыстаў, мэдыкаў, прадстаўнікоў канфэсій і грамадзскасьці па распрацоўцы законапраекта аб забароне абартаваньня ў РБ з далейшай прапановай яго на разгляд у дзяржаўныя органы.

Вось дзе Хрысьціянская Дэмакратыя можа канкрэтна паслужыць інтарэсам сваёй нацыі, якая чакае духоўнага Адраджэньня ў асобах ініцыятыўных і адказных за лёс народа і краіны людзей.

*Сяргей Патаранскі, Менск*

*Тэксты ў рубрыцы Пошта «Крыніцы» друкуюцца на правах дыскусіі.*





**Ян Лагвіновіч** з Баранавічаў дзеліцца сваёй паэтычнай рэфлексіяй адносна адмысловага прывітаньня сябраў БХД, набытага Ўстаноўчым зьездам, і спадзяецца на музыку, які ўцелавіць гэты радасны настрой у адпаведнай мэлёдыі.

# ТРЫЯЛЕТ ВЕРЫ



Павітаецца хтосьці:
Жыве Беларусь!
Адкажу яму:
З Богам жыве!
Быццам сябрам ці братам мяне назаве
Той, хто скажа:
Жыве Беларусь!
Перажыць давялося ліхую пару…
Дзякуй Богу, мы зноў у Царкве.
Калі першы прамоўлю:
Жыве Беларусь!
Адкажыце мне:
З Богам жыве!

# ЧАГО ТЫ БАІШСЯ?

Чаго ты баішся, мой родны народ?
Ты кажаш – лепш гэтак, чым з вайной.
Але ўжо цэлых пятнаццаць год.
Ваюе наша ўлада з табой.

Чаго ты баішся? Думкі людзей?
Людзей тут ніхто і не паважае.
Баішся падставіць сваіх дзяцей?
Твая бяздзейнасць іх забівае!

Не дзеля таго Хрыстос паміраў,
Каб люд Ягоны сядзеў і стагнаў!

Ён даў нам свабоду, валодай жа ёй:
Ён разлічыўся Сваёю крывёй!

Дзе Дух Гасподні – там свабода,
Дзе Божы Дух – і перамога там.
Але паглядзі на жыцце народа,
Свабода толькі мроіцца нам!

Хопіць стагнаць, хопіць баяцца!
З-за страху нямілы нам белы свет.
За перамогу трэба змагацца.
Згадайма ж Госпада запавет!

*Дар'я Б., Наваградак, травень 2009 г.*

# МЫ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

Дарагія сябры! Вы маеце магчымасьць штодзённа атрымліваць сьвежую інфармацыю ад БХД на нашым партыйным сайце: ***WWW.BCHD.INFO***. Беларускія і міжнародныя навіны, магчымасьць пакідаць свае камэнтары, электроннае галасаваньне па «Двубоі», грунтоўная інфармацыя пра гісторыю, ідэалёгію, кампаніі БХД – ***www.bchd.info***!
P.S. Наша электронная пошта: ***bchd.mail@gmail.com***





УВАГА!

# 10 ГАРАЧЫХ ТЭЛЕФОНАЎ БХД

| | |
|---|---|
| **+ 375 29 5160861** | **Павал Севярынец**: рэгіёны, інфармацыя, культура, ідэалёгія, газэта «Крыніца», кампанія «Люблю Беларусь». |
| **+375 29 7635954** | **Віталь Рымашэўскі**: Менск, міжнародныя справы, адукацыя, кампанія «Пакаяньне». |
| **+375 29 6512665** | **Аляксей Шэін**: «Малітва за Беларусь», газэта «Весьнік», кампанія «Моцная сям'я – моцная Беларусь». |
| **+375 29 7245156** | **Георгій Дзьмітрук**: эканоміка, кампанія «За свабоду веравызнаньня». |
| **+375 29 7534337** | **Дзяніс Садоўскі**: Управа, арганізацыйныя пытаньні, кампанія «Супраць магіі і акультызму». |
| **+375 29 2277778** | **Даніла Пінькевіч**: прэс-сакратар БХД, сайт bchd.info |
| **+375 29 5018781** | **Леанід Скарабагаты**: праваабарона, юрыдычная кансультацыя. Барацьба супраць алькагалізму. |
| **+375 29 7321633** | **Дзяніс Кобрусеў**: сакратар Менскай арганізацыі БХД. |
| **+375 29 8616228** | **Валянціна Шычко**: рэгіянальны каардынатар, «Беларускі Хрысьціянскі Хіт». |
| **+375 33 6373715** | **Любоў Каменева**: Моладзь БХД. |



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 5160861 (Павал)**.

**Незалежнае інфармацыйнае выданьне**
**Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»**
**Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.**
**Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ**

**Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 25 ліпеня 2009**
**Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.**
**Распаўсюд бясплатны.**